# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 20 (1264) ГОД XXV БЕЛАСТОК 18 МАЯ 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.

# У згоднай, працавітай сям'і

Напрадвесні сяляне яшчэ не стомлены палявымі работамі, яшчэ могуць спакойна пасядзець у хаце і ў будні дзень. І сям'я Бірылкаў, раніцай управіўшыся з карміленнем дамашняй жывёлы і сваім снеданнем, у гэты дзень нікуды не спяшалася. Дзень быў непагодны, дзьмуў халодны вецер ды пападваў снег. Такое надвор'е нікога не заахвочвала выходзіць з хаты, калі не было пільнай патрэбы. І чамусьці такая слата найчасцей выклікае ў людзей успаміны аб перажытым. Старыя Бірылкі, гэта значыць сямідзесяцішасцігадовы Шымон і яго жонка Лідзія, ды маладыя Бірылкі — іх сын Аляксандр і яго жонка Валянціна загаварылі аб мінулым. Шымон успомніў гады свайго дзяцінства і юнацтва. Як яны непадобныя да сёняшніх, да дзяцінства яго ўнукаў, якія жывуць так бестурботна і ў дабрабыце.

Шымон расказвае аб тым, як у 1914 годзе людзі масава ўцякалі ў бежанцы ў Расію. І ён з бацькамі таксама выехаў са сваёй вёскі, але даехаў толькі да Пружан і адтуль павярнулі яны назад, бо захварэў бацька. Вярнуліся ў Новае Беразова працаваць на гаспадарцы. На ўсё жыццё ўрэзалася яму ў памяць смерць бацькі. Было яму тады 11 год. Наколькі цяжэйшым стала іх жыццё!.. Яму, падрастаючаму, так не хапала сардэчнага бацькоўскага слова, бацькоўскіх пачуццяў. Шымон Бірылка часта расказвае аб цяжкім жыцці



пры санацыйнай Польшчы, аб разгроме грамадоўскага З'езду ў суседнім Старым Беразове. Расказвае і аб пачатку другой сусветнай вайны, калі ён, як салдат, восенню 1939 года хутка вяртаўся дамоў, таму што ваеннае начальства распусціла іх полк пад Ковелем, а само падалося за граніцу. Усё гэта цікава, усё гэта звязана з яго біяграфіяй і з гісторыяй таго нялёгкага часу. Маладое пакаленне ведае гэты перыяд толькі з такіх расказаў, з кніжак і фільмаў.

А калі пойдзе гаворка на сямейныя тэмы, Шымон Бірылка абавязкова ўспомніць свайго зяця — Івана Суліму з Бельска, які працуе там у школьным інспектараце.

— Ганаруся сваім зяцем, лічу яго добрым і разумным чалавекам, — заяўляе ён, — і тады яго вочы робяцца ярчэйшымі.

Дачка Ніна вучылася ў вышэйшай установе ў Любліне і вярнулася на Беласточчыну магістрам біялогіі, працуе ў школе.

Ёсць поўныя падставы ганарыцца і сынам Аляксандрам. Ён астаўся на гаспадарцы. І зусім цяпер гэтага не шкадуе, бо пераканаўся, што спецыяльнасць гаспадара дае вялікія матэрыяльныя магчымасці, асабліва тады, калі належна выкарыстоўваюцца ў гаспадарцы агратэхнічныя веды. І ён, працуючы на гаспадарцы разам з бацькамі, адначасова вучыўся ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Дайлідах, які закончыў у 1967 годзе.

(Працяг на стар. 4)



Від на Тыкоцін з боку ракі Нарвы. На першым плане Вайсковы алюмнат (Дом ветэранаў вайны) з 1634–37 гадоў. У глыбі касцельны ансамбль з 1742–55 гадоў. (Да фотарэпартажа на стар. 3).

Баценька, а калі ж была тая гравейка? Тая дарога, пасыпаная гравіем і пільнаваная немцамі? Ці не там, дзе пілі мы бярозавы сок? Ці гэта была ўжо блакада? Ты ж сам тады сказаў, што калі пяройдзем гравейку, то будзем жыць! І яшчэ ты сказаў: „Помні, калі куля царапне, каб не пішчэла!“ І я падрыхтавалася цярпець, калі мы перабеглі гравейку і зашыліся ў густы-густы хмызняк. Толькі каб ты мяне не кінуў, толькі каб быць разам! Твой выбар гэтага гушчарніка быў трапны: немцы стралялі, але кулі да нас не даляцелі. І толькі сёння я магу перад табой прызнацца, які звярыны страх выклікала ўва мне тое злавеснае слова „гравейка“.

Было мне вельмі страшна яшчэ тады, калі сядзелі мы ў невялічкіх ялінах,

АДА ЧЭЧУГА




перабягаючы ад адной да другой, а немцы хадзілі амаль побач, шукаючы нас, і мы знізу бачылі іх ногі. Ці не тады забілі твайго дваюраднага брата Сяргея?

...Ну, але гэта то ўжо напэўна была блакада, калі немцы прарвалі абарону партызан і суцэльна пайшлі ў наступленне. Памятаю, як ты вёў групу на прарыў. Ты мяне нёс на руках, і я была табе ўдзячна, што не ўкінуў мяне ў калодзеж, каб не дасталася немцам (я чула, што быў такі выпадак). Я бачыла, як цяжка было табе бегчы са мною і як ты выкідаў па чарзе свае рэчы, і скураны плашч на сіняй падкладцы пакінуў таксама. А немцы стаялі на гары з правага боку і ўжо нават у нас не стралялі. Навошта? Ззаду ж праследвалі нас іншыя, а налева былі балоты, з якіх ніякі д'ябал не вылезе...

Памятаеш, як брызентавай шапкай ты зачарпнуў мне з зялёнай лужыны вады і даў напіцца?.. І мой бяссільны дакор на мосце, калі ты перакладаў аўтамат з аднаго пляча на другое, а я ўзмалілася: „Баценька, міленькі, не забівай мяне, пакінь, няхай лепш немцы заб'юць!“ „Дурненькая“, — сказаў ты толькі і яшчэ мацней прытуліў мяне, але перад вёскай, якая апынулася на нашай дарозе, ты ўсё ж пакінуў мяне з вернай бабкай Лізай і сказаў: „Ратуй нашу Адарку!“, хаця ёй гаварыць гэтага не трэба было. І ты павёў групу налева, у балоты. І зараз жа за вамі паляцеў нямецкі самалёт, страляючы ў вас.

А мы засталіся з бабкай. У полі быў нейкі араты, і бабка запыталася ў яго, ці ёсць у вёсцы немцы. Немцаў у вёсцы не было, і мы пайшлі ад хаты да хаты прасіцца, каб нас прынялі. Ніхто не хацеў, але адна жанчына ўзяла нас у хату і накарміла крупнікам. У яе самой было трынаццаць дзяцей, і мы ізноў

(Працяг на стар. 4)




* * *

*Хоць прыходзім сюды*
*Мы, як сціплыя госці,*
*Ёсць у нашай хады*
*Гаспадарскае штосьці.*

*Чуцен крок наш здаля*
*Сёння так, як і ўчора:*
*Плугара, каваля,*
*Песняра і шахцёра...*

*Што асудзім на злом,*
*Што скуём, што пасеем?*
*І дабром або злом*
*Наша заўтра заселім?*

*Мы і вы, я і ты*
*Перад часам падсудны:*
*Пакідаем масты,*
*Песні, зоркі і судны.*

*Што было — не сплыло*
*Днём, у быце пазбытым.*
*Дум і сэрцаў святло*
*Пакідаем арбітам.*

*Не палохае нас*
*Забыцця небяспечнасць.*
*Мы прыходзім на час.*
*Мы прыходзім на вечнасць.*

**Пятрусь Макаль**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### МАГІЛЁЎСКІЯ ЗЕМЛЯВОЗЫ

Новы магутны аўтасамазвал маркі МаАЗ-6507 створаны на Магілёўскім аўтазаводзе. Скорасць новых машын — 55 кіламетраў у гадзіну, грузападымальнасць — 20 тон. Яны вызначаюцца высокай манеўранасцю і праходнасцю.

### РАЗАМ З ВУЧОНЫМІ

Незвычайны інструмент — электрамагнітнае поле — з'явіўся ў шліфавальшчыкаў Мінскага аўтазавода. Устаноўка, зманціраваная з дапамогай вучоных Фізіка-тэхнічнага інстытута Акадэміі навук БССР, дазволіла скараціць час на шліфоўку кожнай дэталі з паўгадзіны да некалькіх мінут. Палепшылася якасць вырабаў, скарацілася колькасць рабочых, занятых на аперацыі.

Гэта толькі адна з 60 распрацовак, укаранёных у гэтай пяцігодцы спецыялістамі завода сумесна з вучонымі васьмі акадэмічных устаноў рэспублікі, Беларускага політэхнічнага інстытута, іншых навуковых устаноў.

### КАЛЯНДАР

**500 гадоў назад**

19.5.1480. пам. Я. Длугаш, польскі гісторык.

**95 гадоў назад**

22.5.1885 пам. В. Гюго, французскі пісьменнік.

**75 гадоў назад**

24.5.1905 нар. М. Шолахаў, рускі савецкі пісьменнік.

**70 гадоў назад**

18.5.1910 пам. Э. Ажэшка, польская пісьменніца.

* * * * * * * * *

19.V.1910 г. „Наша ніва“ паведамляла:

**Вільня.** 29 красавіка выпусцілі з турмы рэдактара „Нашае нівы“ А. Уласава, каторы быў прысуджаны на 2 месяцы ў крэпасць за стаццю ў газеце і ўжо адбыў гэту кару.

**Гродна.** Па горадзе цягаюцца цяпер кітайцы і падаюць сябе за дактароў ад усялякіх хвароб. Зайшлі яны да аднэй кабеціны, каторая ў жыцці сваім не бачыла кітайцаў і так спужалася іх, што выбіўшы вакно, стала нема крычаць. Надбегла паліцыя і чуць успакоілі кабеціну, каторая думала, што гэта чэрці прыйшлі па яе душу.

**Варшава.** Ва ўсіх 10 польскіх губернях пачаліся арышты за справы яшчэ 1905 года. Турмы перапоўнены. Кажуць, што дзеўчатак-гімназістак садзяць разам з крымінальнымі праступнікамі.

**Тыбэт.** Народ у Тыбэце, вельмі незадаволены з таго, што ад кітайскіх войск павінен быў уцякаць іх найвышэйшы духоўны Далай-Лама, узбунтаваўся. Кітайскі гарнізон, зложаны з тысячы чалавек, замкнуўся ў горадзе; яго абстрэльваюць з усіх старон.


**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE“**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 799. Nakład 7.700 I-2




*Ігнат Антонаў (справа) з сваім баявым сябрам, Ганаровым грамадзянінам горада Мінска, Героем Савецкага Саюза Мікалаем Колчыным.*

**ЯНЫ ЗМАГАЛІСЯ ЗА РАДЗІМУ**

## ЗА РУЛЁМ ТАНКА

**(Карэспандэнцыя з Беларусі)**

Дзесяткі тысяч механікаў-шафёраў сядзелі за рулём танкаў, але выпадак, пра які мы раскажам, асаблівы. Баявую машыну вёў фельчар Ігнат Пятровіч Антонаў, без пяці мінут доктар. Вайна яму перашкодзіла атрымаць дыплом.

Ужо пасля першага бою санітарны інструктар танкавай роты Антонаў зразумеў, што павінен добра ведаць канструкцыю танка, каб своечасова аказаць дапамогу параненаму.

Калі чалавек сплывае кроўю, тады хвіліна затрымкі можа каштаваць яму жыццё. А калі гарыць танк, рашаюць секунды. Так было, напрыклад, з Мікалаем Колчыным. Страпянуўшыся, затрымалася яго „трыццацьчацвёрка“, з яе заклубіўся дым. Антонаў спрытна адкрыў люк, маментальна сцвердзіў, што загінулі ўсе, апрача камандзіра. Не было чым дыхаць, полымя ў той жа міг асмаліла бровы, паспеў яшчэ падумаць: вырастуць потым, схапіў Колчына і выцягнуў яго праз ніжні люк. Калі Антонаў з параненым адпоўз метраў за дваццаць — пачуўся выбух — танк вылецеў у паветра.

112 раненых вынес з поля бою Антонаў, за што яго ўзнагародзілі двума ордэнамі і трыма баявымі медалямі.

Ноччу на 3 ліпеня 1944 года, калі танкісты атрымалі загад наступаць на Мінск, Колчын, вярнуўшыся з бальніцы ў сваю вайсковую часць, папрасіў Антонава кіраваць яго танкам, бо механік-шафёр быў забіты.

Збіваючы заслоны праціўніка, знішчаючы засады, танкавы ўзвод Колчына як адзін з першых уварваўся ў горад, заняў мост цераз Свіслач і ўтрымаў яго да падыходу асноўных сілаў. За гэты подзвіг Колчына ўзнагародзілі званнем Героя Савецкага Саюза, Антонава — ордэнам Чырвонага Сцяга.

...Мікалай Іванавіч Колчын — Ганаровы грамадзянін Мінска, ён жыве ў Куйбышаве. Тройчы паранены, два разы гарэў у танку, цяпер ён часта хварэе. Лячыцца, або як кажа „рамантавацца“, ездзіць у Мінск да свайго баявога друга — Ігната Пятровіча Антонава, члена-карэспандэнта Акадэміі медыцынскіх навук, прафесара, дырэктара Беларускага дзяржаўнага навукова-доследнага інстытута неўралогіі, неўрахірургіі і фізіятэрапіі.

Гэты інстытут, можна сказаць, дзіця Ігната Пятровіча. Ён вырас з лабараторыі, якую ўзначальваў Антонаў. Дзякуючы яго настойлівасці стаў адным з самых значных медыцынскіх цэнтраў рэспублікі. У яго клініцы вылечваюцца многія захворанні, якія яшчэ зусім нядаўна лічыліся невылячальнымі. Ён аўтар 240 навуковых прац, а яго манаграфія пра інсульт (удар ад павышанага ціску крыві) атрымала залаты медаль імя Бехцярава. Ігнат Пятровіч выхоўвае добрую змену: 8 габілітаваных дактароў навук і 19 дактароў — яго вучні належна працуюць у многіх мясцовасцях нашай краіны. Былы вайсковы фельчар, а цяпер акадэмік па-ранейшаму лечыць і сваіх былых баявых сяброў, гісторыі хваробаў якіх ён ведае з адлеглага ваеннага часу.

**Ніна Пракаповіч**

## II з'езд абсальвентаў бельскага белліцэя

Мінула ўжо шэсць год з таго часу, як у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім упершыню сустрэліся абсальвенты і выхаванкі гэтай школы.

— На працягу 30 гадоў школу закончыла амаль 1500 чалавек, у тым ліку 1070 з поўнай матурай, — гаварыў дырэктар школы Аляксей Карпюк на I з'ездзе абсальвентаў у 1974 годзе.

Прайшло пяць год, і на карце гісторыі школы прыбыло 530 новых атэстатаў сталасці, што гаворыць аб вялікай папулярнасці ліцэя. Сёння гэта ўжо немалая сям'я. Некаторыя з іх сустракаюцца штодзень, іншыя не бачыліся доўгія, доўгія гады. З'езд для іх — гэта сямейнае свята, шчырыя размовы. А столькі ж цікавага назбіралася. Столькі ўражанняў! Каб даць магчымасць гэтакай сустрэчы, школа рыхтуецца да чарговага з'езду.

II з'езд абсальвентаў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім адбудзецца 20 і 21 верасня бягучага года ў будынку школы пры вуліцы Каперніка 4. Тым, адрасы якіх удасца ўстанавіць, будуць высланы анкеты і інфармацыйныя лісты. Вядома, аднак, месца пражывання не ўсіх абсальвентаў, і таму дырэкцыя школы ды арганізацыйны камітэт з'езду просіць, каб па меры магчымасці тыя, якія атрымаюць гэтакае паведамленне, інфармавалі ўсіх сваіх знаёмых, якія з'яўляюцца абсальвентамі і выхаванкамі гэтага ліцэя. Падрабязную інфармацыю можна атрымаць або непасрэдна ў сакратарыяце школы, або тэлефанічна, звонячы на нумар 2181 у Бельску Падляшскім. Той, хто вырашыў прыняць удзел у з'ездзе, павінен уплаціць на конта 5614-2903-132 РКО Бельск Падляшскі суму 500 злотых. Пасля гэтага на іх адрасы будуць высланы фармальныя запрашэнні.

**(мш)**




**На пытанне „Чаго вы чакаеце ад IX з'езду БГКТ?“ адказвае старшыня ГП Мікалай Самоцік ● У добрым стылі ● Старасць — не радасць ● Развітальны вечар ● Янка Купала ● У няволі ● Следам лісту ● Дзядзька Квас спакушае карэспандэнтаў ● Весткі з Бельска, Гарадка, Дубяжына, Кляшчэляў, Шудзялава, Нарвы, Гайнаўкі ● Калі сніцца дзіця ● Беларуская песня „Алеся“**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**NIEDZIELA 18 V** — 6.15 TTR i RTSS J. pol. sem. II. 6.45 Biol. sem. II. 7.20 Alarm przeciwpożarowy. 7.40. Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 9.00 Teleranek a w nim m.in.: „Tajemniczy ogród”. 10.20 Antena. 10.45 Polskie bitwy — Racławice. 12.00 Dziennik. 12.15 Rolnicze rozmowy. 12.45 Klub sześciu kont. 13.30 Piękne głosy — T. May — Czyżowska. 14.20 Legendy. 14.50 Szuflada. 15.10 Los. dużego lot. 15.25 Koncert życzeń. 16.05 Wyścig Pokoju. 16.50 Tele-Echo. 17.50 Koń zwany Markizem — radz. film fab. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Kariera Nikodema Dyzmy — film TP. 21.40 Sportowa niedziela. 21.55 Nocny koncert. 22.35 Irlandzki tancerz — wid. rozr.

**PONIEDZIAŁEK 19 V** — 12.45 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 13.25 Fiz. sem. IV. 15.10 Program dnia. 15.15 NURT — Naucz. pocz. kl. III. 15.45 Obiektyw. 16.05 Dziennik. 16.20 Zwierzyniec. 15.45 Wyścig Pokoju. 17.25 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.45 To się zdarzyło w Kokandzie — odc. II radz. film TV. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV — J. Abramow-Newerly — „Klik Klak”. 21.20 Kronika Wyścigu Pokoju. 21.35 Horyzont. 22.05 Śledztwo zostało wznowione. 22.55 Dziennik.

**WTOREK 20 V** — 6.00 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 6.30 Fiz. sem. IV. 11.05 Dla szkół — J. pol. kl. I lic. 12.00 Czerwone, żółte, ziel. kl. I—III. 12.55 Rodzina współcz. 13.25 RTSS i TTR — Chem. sem. II. 14.00 Wskaz. met. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dzień dobry w kręgu rodziny. 16.55 Klinika zdrowego człowieka. 17.25 Sonda. 17.55 Studio Młodych. 18.15 Królik Bugs przedstawia — ameryk. film anim. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skojarzenia. 19.30 Dziennik. 20.10 Joe Hill — szwedz. film fab. 23.05 Dziennik.

**ŚRODA 21 V** — 6.00 RTSS i TTR — Chem. sem. II. 6.30 Wskaz. met. sem. II. 11.05 Dla szkół — Fiz. kl. VI. 12.00 Hist. kl. V. 12.45 RTSS i TTR — Mat. sem. IV. 13.25 Mech. rol. sem. IV. 14.50 Program dnia. 14.55 Nurt — Ped. 15.25 Obiektyw. 15.45 Dziennik. 16.00 Kameleon. 16.25 Wyścig Pokoju. 17.05 Dom i my. 17.20 Los. małego i express lotka. 17.35 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.00 Skarbiec. 18.25 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Ex libris. 19.30 Dziennik. 20.10 Pożyjemy, zobaczymy — jug. film fab. 21.55 Kronika Wyścigu Pokoju. 22.10 Los. olimp. gry liczb. Totalizatora sport. 22.30 Konkrety. 23.00 Dziennik. 23.15 Camerata.

**CZWARTEK 22 V** — 6.00 TTR i RTSS — Mat. sem. IV. 6.30 Mech. rol. sem. IV. 11.05 Dla szkół — Hist. kl. VI. 12.00 Nauka o czł. kl. VIII. 12.55 J. pol. kl. I—III. 13,30 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 14.00 Mech. rol. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Turniej zastępowych. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wyścig Pokoju. 17.15 Czwartek TDC. 17.55 Patrol. 18.20 Studio Młodych. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi. 19.05 Informator tur. 19.30 Dziennik. 20.10 Maigret, Lognon i Gangsterzy — fr. film TV. 21.40 Pegaz. 22.25 Kronika Wyścigu Pokoju. 22.40 Dziennik. 22.55 Trybuna Literacka.

**PIĄTEK 23 V** — 6.00 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 6.30 Mech. rol. sem. II. 11.05 Praca — technika, kl. II. 12.00 Pr. dla najmłod. 12.55 Geogr. kl. VIII. 13.40 Hod. zwierz. sem. IV. 14.10 Mech. rol. sem. IV. 14.50 Red. szkolna zap. 15.05 Program dnia. 15.10 NURT — Nauki polit. 15.40 Obiektyw. 16.00 Dziennik. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 16.35 Wyścig Pokoju. 17.25 Studio Młodych. 17.45 Czterdziestolatek — odc. XV. 18.50 Dobranoc. 19.00 Album z piosenkami. 19.30 Dziennik. 20.10 Potyczki rodzinne. 21.35 Kronika Wyścigu Pokoju. 21.50 Poglądy. 22.05 Studio Teatralne — Dario Fo — „Pogrzeb fabrykanta”. 23.10 Dziennik.

**SOBOTA 24 V** — 6.00 TTR — Hod. zwierz. sem. IV. 6.30 Mech. rol. sem. IV. 11.05 Dla szkół — Pr. dla najmłod. kl. III. 12.45 TTR i RTSS — J. pol. sem. II. 13.25 Biol. sem. II. 14.15 Program dnia. 14.20 Mag. lotniczy. 14.50 Radzimy rolnikom. 15.00 Orbita. 15.30 Obiektyw. 15.50 Dziennik. 16.05 Wyścig Pokoju. 17.05 Szanujmy wspomnienia. 17.55 Liga piłki nożnej. 18.50 Dobranoc. 19.00 W świecie dzikich zwierząt — szakal. 19.30 Dziennik. 20.10 Pogoda dla bogaczy — odc. VIII cz. II ameryk. film TV. 21.05 Kronika Wyścigu Pokoju. 21.20 Program publ. 21.50 Kaprys Studia gama. 22.50 Dziennik. 23.05 Kino nocne.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

Piątek 16 V — 8.05 Film ser. 9.50 Koncert. 18.00 P. nożna. Spartak — Dynamo (K).

Sobota 17 V — 13.45 Film fab. 14.25 W świecie zwierząt. 16.35 Koncert. 18.25 Spektakl.

Niedziela 18 V — 13.00 Film fab. 15.40 Klub podróży. 16.40 Film anim. 17.00 Panorama międynar. 18.15 Pieśni mojej Ojczyzny. 18.50 Film fab.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыеперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

Białowieża Piętaszek i Robinson — ang. 20—21. Jesienna sonata — szwedz. 22—23. Umarli rzucają cień — pol. 24—25.
**Bielsk Podl.** Cztery noce marzeń — fr. 19—20. Fedora — RFN 21—22. Kuzynka Angelika — hiszp. 23—25.
**Czeremcha** Pasikonik — radz. 20—21.
**Czyże** Umarli rzucają cień — pol. Alicja już tu nie mieszka — USA 21—25.
**Gródek** Rewolwer Python — fr. 24—25.
**Hajnówka** Ocalić miasto — pol. 19—21. Doktor Ponearu — rum. 22—23. Śmierć prezydenta — pol. 24—25.
**Michałowo** We władzy ojca — wł. 20—21. Alicja ucieka po raz ostatni — fr. 22—23. Musisz żyć — NRD 24—25.
**Mielnik** Gang Olsena wpada w szał — duń. 21. Bestia — pol. 24—25.
**Milejczyce** Gwiazdy poranne — pol. Bałamut — radz. 21—25.
**Narew** Hotel klasy lux — pol. Dziewczyna do dziecka — wł. 21—25.
**Narewka** Zmory — pol. Cygańska miłość — buł. 21—25.
**Nurzec** Chłopiec z burzy — austr. 20—21. Kung fu — pol. 22—23. W mroku nocy — USA 24—25.
**Orla** Sabina Wulff — NRD. Sto koni do stu brzegów — pol. 21—25.
**Rajsk** Młody Frankestein USA. Roman i Magda — pol. 21—25.

